Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ.

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнага Савету
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. = Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

| № 20 (121) | 31 сьнежня 1931 г. | № 20 (121) |
|---|---|---|



## ЗЬМЕСТ



---

## Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

### 91. Пра зацьверджаньне статуту Беларускага Дзяржаўнага малочна-прамысловага трэсту „Белмалпрамтрэст“.

Зацьвердзіць прыкладзены да гэтае пастановы статут Беларускага Дзяржаўнага Малочна-Прамысловага Трэсту „Белмалпрамтрэст„.

Даручыць Дырэктару Трэсту зарэгістраваць статут у адпаведнасьці з існуючым заканадаўствам.

Нам. Народнага Камісара
Земляробства БССР Масюкоў.

10 сьнежня 1931 г.
№ 762.

Дадатак

# СТАТУТ

## Беларускага Дзяржаўнага Малочна-Прамысловага Трэсту „Белмалпрамтрэст“

### 1. Агульныя палажэньні.

1. У мэтах далейшага разгортваньня сацыялістычнай жывёлагадоўлі, стварэньня буйных таварна-прамысловых жывёлагадоўчых савецкіх гаспадарак, масавага палепшаньня і правядзеньня племяннной работы ў галіне буйнай рагатай жывёлы арганізуецца дзяржаўны малочна-прамысловы трэст рэспубліканскага значэньня, пад назваю: Беларускі Дзяржаўны Малочна-Прамысловы Трэст „Белмалпрамтрэст“, які знаходзіцца пад ведамам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР і дзейнічае на падставе гэтага статуту.

2. У склад Трэсту ўваходзяць вытворчыя савецкія гаспадаркі з прадпрыемствамі і навучальныя ўстановы, сьпіс якіх далучаецца. *)

3. Для ажыцьцяўленьня задач, паказаных у арт. 1, Трэст:

а) ажыцьцяўляе кіраўніцтва ўваходзячымі ў яго сыстэму гаспадаркамі, надаючы ім спэцыяльна жывёлагадоўчы напрамак, як галоўнай вядучай галіны гаспадаркі;

б) распрацоўвае мерапрыемствы па ўзбуйненьню існуючых гаспадарак і стварэньню новых, арганізуе спэцыяльна жывёлагадоўчыя гаспадаркі на базе асваяемых зямельных плошчаў, а таксама буйныя вучэбна-паказальныя фэрмы;

в) дапамагае арганізацыі ў калгасах жывёлагадоўчых таварных фэрм;

г) прымае ўсе захады да рацыяналізацыі і мэханізацыі вытворчых працэсаў уваходзячых ў склад Трэсту гаспадарак і ўнядрэньня ў іх апошніх дасягненьняў навукі і тэхнікі;

д) арганізуе прадпрыемствы для тэхнічнай перапрацоўкі малочных прадуктаў як сваіх гаспадарак, так і навакольных калгасаў;

е) прымае меры да поўнага ўкамплектаваньня статку ўваходзячых у склад Трэсту гаспадарак, паводле плянавых заданьняў НКЗ БССР;

ж) прымае неабходныя захады для палепшаньня догляду за жывёлай, зьніжэньня процанту адыходу ад featureрознага роду хвароб і нездавальняючага ўтрыманьня жывёлы, павялічэньня тэмпаў прыросту статку, а таксама наглядае за захаваньнем закону, забараняючага забой племяннной жывёлы;

з) прымае ўсе захады да поўнай і своечасовай здачы прадукцыі саўгасамі дзяржаве, не дапушчаючы разбазарваньня таварнай прадукцыі;

і) устанаўляе спэцыяльныя прэміі за перавыкананьне пляну здачы прадукцыі паасобнымі саўгасамі і таварнымі фэрмамі;

к) устанаўляе нормы і парадак выдачы канцэнтраваных кармоў, распрацоўвае і прымае меры для забясьпечаньня ўсяго пагалоўя жывёлы ўласнымі грубымі і сочнымі кармамі і наглядае за правіль-

*) Сьпіс гэты ў Бюл. не друкуецца.

ным іх выдаткаваньнем, вядзе поўны і сталы вучот кармавых рэсурсаў і складае кармавы балянс;

л) прымае меры для ўстаноўкі, паводле пляну НКЗ БССР, сілосных пабудоў, запаўненьня іх сілоснымі кармамі, а таксама да своечасовага сканчэньня будаўніцтва ў гаспадарках, неабходнага для разьмяшчэньня жывёлы;

м) падрыхтоўвае і перакваліфікоўвае патрэбныя кадры як спэцыялістаў, так і масавыя кадры з рабочых саўгасаў і калгасьнікаў;

н) распрацоўвае мерапрыемствы па арганізацыі сацыялістычных форм і мэтадаў працы ў падпарадкаваных гаспадарках, поўнага пераходу на зьдзельшчыну, зьнішчэньні абязьлічкі і наглядае за іх ажыцьцяўленьнем;

с) распрацоўвае мерапрыемствы па забясьпечаньні гаспадарак патрэбнай рабсілай і кантралюе іх выкананьне, а таксама арганізуе мерапрыемствы па разгортваньні рабочага вынаходніцтва і рацыяналізацыі вытворчасьці.

4. Трэст складае самастойную гаспадарчую адзінку і дзейнічае на падставе камэрцыйнага разрахунку, у адпаведнасьці з плянавымі заданьнямі, зацьверджанымі Народным Камісарыятам Земляробства БССР. Ад дня рэгістрацыі Трэст мае правы юрыдычнай асобы.

5. За свае абавязацельствы Трэст адказвае толькі тою сваёю маемасьцю, якая, паводле чынных законаў, можа спаганяцца. Дзяржава за даўгі Трэсту не адказвае, а таксама на маемасьць Трэсту ня можа накіроўвацца якое-небудзь спагнаньне за дзяржаўныя даугі і абавязацельствы.

6. Трэст можа рабіць на ўсёй тэрыторыі Саюзу ССР усе апярацыі, у тым ліку і гандлёвыя, якія патрэбны для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у арт. 1 гэтага статуту.

У замежным гандлі Трэст удзельнічае ў парадку, устаноўленым адпаведнымі законамі.

7. Трэст уладае, карыстаецца і распараджаецца перададзенаю яму маемасьцю і абкладаецца дзяржаўнымі і мясцовымі падаткамі і зборамі паводле агульных законаў, апроч выняткаў, паказаных у Палажэньні аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г. і ў спэцыяльных законах.

8. Бясплатнае адбіраньне ад Трэсту якой-небудзь яго маемасьці дазваляецца толькі паводле правіл, паказаных у арт. 7 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

9. У дагаворныя адносіны Трэст абавязан уступаць выключна з дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі, каперацыйнымі арганізацыямі, якія ўдзельнічаюць як контрагенты.

10. Кантрактаваньне прадукцыі Трэсту для дзяржаўных органаў дазваляецца паводле арт. 39 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

11. Ва ўсіх выпадках, не прадугледжаных гэтым статутам, Трэст дзейнічае паводле Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г., а таксама паводле чынных законаў.

12. Трэст мае пячатку з сваёю назваю.

### II. Статутны капітал Трэсту.

13. Статутны капітал Трэсту вызначаецца Наркамземам па ўзгадненьні з Наркамфінам БССР арыентыровачна да зацьверджаньня балянсу за першы аперацыйны пэрыяд дзейнасьці Трэсту, пасьля чаго статутны капітал Трэсту будзе ўдакладнены.

Перададзеныя Трэсту, паводле арт. 2 гэтага статуту, гаспадаркі ў статутны капітал Трэсту не залічваюцца.

### III. Кіраўніцтва Трэсту, яго правы і абавязкі.

14. Для кіраваньня Трэстам Народны Камісарыят Земляробства БССР назначае Дырэктара і яго намесьніка.

Да зыходу тэрміну паўнамоцтва Дырэктар і яго намесьнік могуць звальняцца Народным Камісарыятам Земляробства БССР.

15. Кіраўніцтва Трэсту знаходзіцца ў г. Менску.

16. Дырэктар Трэсту, паводле гэтага статуту і чынных законаў, пад агульным наглядам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР, вядзе самастойна ўсю аперацыйную і адміністрацыйную працу Трэста, кіруючы справамі і маемасьцю, што знаходзіцца ў яго распараджэньні і робячы ўсе дагаворы і апрацыі, якія належаць да кампэтэнцыі Трэсту.

17. Да кампэтэнцыі Дырэктара, у паасобку, належыць:

а) арганізацыя вытворчасьці і кіраваньня дзейнасьцю ўсіх прадпрыемстваў, якія ўваходзяць ў склад Трэсту;

б) зацьверджаньне палажэньняў аб кіраваньні вытворчымі прадпрыемствамі, якія ўваходзяць у склад Трэсту, на падставе палажэньня, зацьверджанага Народным Камісарыятам Земляробства БССР;

в) складаньне і паданьне ў Народны Камісарыят Земляробства БССР для зацьверджаньня вытворча-фінансавых плянаў і плянаў капітальнага рамонту, а таксама плянаў будаўніцтва новых вытворчых прадпрыемстваў, даабсталяваньня і пераабсталяваньня існуючых.

Калі Народным Камісарыятам Земляробства БССР ня будзе зацьверджаны вытворча-фінансавы плян Трэсту да пачатку аперацыйнага году, то Дырэктар Трэсту да зацьверджаньня пляну ажыцьцяўляе вытворчую дзейнасьць паводле складзенага ім пляну;

г) падача для зацьверджаньня ў Народны Камісарыят Земляробства БССР праектаў важных зьмен зацьверджаных плянаў (п. „в“);

д) складаньне і падача ў Народны Камісарыят Земляробства БССР для зацьверджаньня пэрыядычных справаздач і балянсаў, праектаў разьмеркаваньня прыбыткаў і папаўненьня страт;

е) арганізацыя касы, вядзеньне справаздачнасьці паводле устаноўленай сыстэмы і справаводства;

ж) найманьне і звальненьне служачых і рабочых цэнтральнага апарату, заключэньне калектыўных і паасобных працоўных дагавораў і паданьне ў Народны Камісарыят Земляробства БССР на зацьверджаньне аб назначэньні або звальненьні Галоўнага бухгальтара Трэсту і дырэктароў вытворчых прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у склад Трэсту;

з) найманьне, здача ў арэнду і набываньне будынкаў, а таксама набываньне праў забудоўкі.

Дамы, пабудаваныя за кошт фонду палепшаньня быту рабочых і служачых, здаюцца ў арэнду з дазволу Народнага Камісарыяту Земляробства БССР;

і) адчужэньне і застава старых і нягодных будынкаў, пабудоў і абсталяваньня ў межах да 25.000 руб. (у кожным выпадку), а звыш гэтай сумы—з дазволу Народнага Камісарыяту Земляробства БССР. На адчужэньне і заставу права забудоўкі патрэбен абавязкова дазвол НКЗ БССР;

к) узьцьце і здача ў арэнду абсталяваньня і дапаможных прадпрыемстваў на тэрмін да 6 гадоў, а звыш гэтага тэрміну—з дазволу НКЗ БССР, узяцьце і здача ў арэнду вытворчых прадпрыемстваў дапушчаюцца толькі з дазволу НКЗ БССР незалежна ад тэрміну;

л) страхаваньне маемасьці Трэсту;

м) выдача і прыняцьце для аплаты грашовых абавязацельстваў;

н) заключэньне ўсякіх патрэбных для ажыцьцяўленьня мэт Трэсту згод, актаў і дагавораў, у тым ліку дагавораў падраду і пастаўкі, і выдача даверанасьцяй;

о) удзел з дазволу Народнага Камісарыяту Земляробства БССР у арганізацыі сындыкатаў, акцыйных (паявых) таварыстваў і інш. гандлёва-прамысловых аб'яднаньняў і набываньне іх акцый і паёў, а таксама ўдзел у сындыкатах, канвэнцыях і таварыствах, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, калі іх задачы адпавядаюць мэтам, паказаным у арт. 1 гэтага статуту;

п) прававаньне на судзе і прадстаўніцтва ў асобе Дырэктара або яго намесьніка, на падставе толькі гэтага статуту, бяз выдачы ім асобнай даверанасьці, ва ўсіх адміністрацыйных установах і ў службовых асоб.

18. Парадак падпісваньня выходзячых з трэсту папер устанаўліваецца Дырэктарам. Усякія дагаворы, згоды, абавязацельствы, даверанасьці падпісваюцца Дырэктарам або яго намесьнікам.

Дырэктар Трэсту мае права ўпаўнаважыць даверанасьцю кожнага супрацоўніка Трэсту для падпісваньня тых ці іншых дакумэнтаў. Дакумэнты грашовага характару сцьвярджаюцца Галоўным бухгальтарам Трэсту.

Гадавыя справаздачы і балянсы падпісываюцца Дырэктарам або яго намесьнікам і Галоўным бухгальтарам Трэсту.

19. Дырэктар і яго намесьнік павінны ўжываць усе захады для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у гэтым статуце, і прыцягваюцца паводле чынных законаў да дысцыплінарнай, крымінальнай і грамадзянскай адказнасьці за цэласьць даручанай маемасьці і гаспадарчае вядзеньне спраў.

**IV. Кіраваньне вытворчымі прадпрыемствамі, якія ўваходзяць у склад Трэсту.**

20. Беспасрэднае кіраваньне паасобнымі вытворчымі прадпрыемствамі, што ўваходзяць у склад Трэсту (арт. 2), ажыцьцяўляецца дырэктарамі, якія назначаюцца і звальняюцца Дырэктарам Трэсту

(гэтыя назначэньні і звальненьні падаюцца ім для зацьверджаньня ў Наркамзем БССР) і дзейнічаюць паводле асобнага палажэньня аб кіраваньні даным прадпрыемствам, зацьверджанага Дырэктарам Трэсту, і даверанасьці, выданай Дырэктарам Трэсту.

21. Апроч статутнага капіталу ўтвараюцца:

а) амартызацыйны капітал;
б) капітал пашырэньня прадпрыемстваў;
в) фонд палепшаньня быту рабочых і служачых;
г) фонд садзейнічаньня вынаходніцтву;
д) фонд садзейнічаньня сацыялістычнаму спаборніцтву;
е) фонд прэміраваньня за рацыяналізатарскія прапановы.

Гэтыя капіталы ўтвараюцца і прызначаюцца на паказаныя мэты і выдаткоўваюцца ў парадку і на падставе спэцыяльных законаў.

22. Амартызацыя маемасьці Трэсту робіцца паводле арт. арт. 44 і 45 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

23. Вызначэньне разьмеру прыбыткаў і страт, разьмеркаваньне прыбыткаў і вызначэньне адлічэньняў ад прыбыткаў у спэцыяльныя капіталы і ў даход дзяржавы, папаўненьне страт, а таксама выдаткаваньне спэцыяльных капіталаў робяцца паводле арт. арт. 46—49 таго-ж палажэньня.

### V. Справаздачнасьць Трэсту і рэвізія яго дзейнасьці.

24. Штогод, не пазьней як праз 3 м-цы пасьля заканчэньня апэрацыйнага году, які лічыцца з 1 студзеня па 31 сьнежня, Дырэктар падае ў Народны Камісарыят Земляробства БССР для разгляду і зацьверджаньня складзеныя, паводле ўстаноўленых законам правіл, справаздачу, балянс і разьмеркаваньне прыбыткаў і страт, а таксама праект папаўненьня страт і падзелу прыбыткаў, паводле Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах на 29 чэрвеня 1927 г.

Адклад тэрміну паданьня справаздач і балянсаў дазваляецца ў парадку, прадугледжаным правіламі публічнай справаздачнасьці.

25. Зацьверджаныя балянсы і разьмеркаваньне прыбыткаў і страт Трэсту публікуюцца Дырэктарам у парадку, устаноўленым правіламі публічнай справаздачнасьці.

26. Рэвізія дзейнасьці Трэсту ажыцьцяўляецца Народным Камісарыятам Земляробства БССР; Дырэктар павінен паказваць належным органам НКЗ БССР для абгляду ўсе кнігі і дакумэнты, справы і перапіску і рабіць ім усялякую дапамогу пры рэвізіі і абсьледваньні дзейнасьці Трэсту.

27. Апроч выпадкаў, дакладна вызначаных чыннымі законамі, іншыя органы, апроч НКЗ БССР, маюць права ў межах свае кампэтэнцыі даваць Дырэктару Трэсту паказаньні і патрабаваць ад яго паданьня справаздач і зьвестак ня інакш, як праз Наркамзем БССР.

### VI. Зьмена статуту Трэсту.

28. Павялічэньне або зьмяншэньне разьмеру статутнага капіталу або іншыя зьмены ў гэтым статуце робяцца паводле арт. арт. 11 і 14 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

### VII. Спыненьне дзейнасьці Трэсту.

Трэст спыняе сваю дзейнасьць ліквідацыяй, далучэньнем, злучэньнем або падзелам, паводле арт. арт. 55—64 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

Нам. Народнага Камісара
Земляробства БССР Масюкоў.

## 92. Пра зацьверджаньне Статуту Беларускага Дзяржаўнага птушкатрусагадоўчага прамысловага Трэсту „Белптушкатрэст".

Зацьвердзіць прыкладзены да гэтае пастановы статут Беларускага Дзяржаўнага Птушкатрусагадоўчага Прамысловага Трэсту „Белптушкатрэст". Даручыць Дырэктару Трэсту зарэгістраваць статут у адпаведнасьці з дзейнічаючым заканадаўствам.

Нам. Народнага Камісара
Земляробства БССР Масюкоў.

10 сьнежня 1931 г.
№ 768.

Дадатак

# СТАТУТ

## Беларускага Дзяржаўнага Птушкатрусагадоўчага Прамысловага Трэсту „Белптушкатрэст".

### 1. Агульныя палажэньні.

1. У мэтах далейшага разгортваньня сацыялістычнай птушка- і трусагадоўлі, стварэньня буйных таварна-прамысловых савецкіх гаспадарак, масавага палепшаньня птушак і трусоў, правядзеньня племяннай работы ў галіне птушка і трусагадоўлі арганізуецца дзяржаўны прамысловы трэст рэспубліканскага значэньня пад назваю „Беларускі Дзяржаўны Птушкатрусагадоўчы Прамысловы Трэст „Белптушкатрэст", які знаходзіцца пад ведамам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР і дзейнічае на падставе гэтага статуту.

2. У склад Трэсту ўваходзяць вытворчыя савецкія гаспадаркі птушка- і трусагадоўчага напрамку, сьпіс якіх далучаецца. *)

3. Для ажыцьцяўленьня задач, паказаных у арт. 1, Трэст:а) ажыцьцяўляе кіраўніцтва ўваходзячымі ў яго сыстэму гаспадаркамі, надаючы ім спэцыяльна птушка-трусагадоўчы напрамак, як галоўнай галіне гаспадаркі;

б) распрацоўвае мерапрыемствы па ўзбуйненьню існуючых гаспадарак і арганізацыі новых буйных сацыялістычных птушкатру-

*) Сьпіс гэты ў Бюл. не публікуецца.

сагадоўчых фэрм на базе асваяемых новых зямельных плошчаў, а таксама вучэбна-паказальных фэрм;

в) дапамагае арганізацыі ў калгасах птушка-трусагадоўчых фэрм;

г) прымае ўсе захады да рацыяналізацыі і мэханізацыі вытворчых працэсаў уваходзячых у склад Трэсту гаспадарак і ўнядрэньня у іх навейшых дасягненьняў навукі і тэхнікі;

д) арганізуе прадпрыемствы для тэхнічнай перапрацоўкі прадуктаў птушка-і трусагадоўлі як сваіх гаспадарак, так і акаляючых калгасаў і бядняцка-серадняцкіх аднаасобных гаспадарак;

е) прымае патрэбныя захады для поўнага камплектаваньня птушкагадоўчых і трусагадоўчых статкаў гаспадарак, уваходзячых у склад Трэсту, паводле плянавых заданьняў НКЗ БССР;

ж) распрацоўвае мерапрыемствы да далейшага разьвіцьця буйнага прамысловага птушкаводства і трусаводства, а таксама да павялічэньня матачнага складу і пашырэньня вытвару сэлекцыйна-племяннога матарыялу і наглядае за іх ажыцьцяўленьнем;

з) прымае патрэбная захады для палепшаньня догляду за птушкамі і трусамі, максымальнага зьніжэньня проценту адыходу ад розных хвароб, для павялічэньня тэмпаў прыросту і кантралюе іх выкананьне;

і) дапамагае вэтпэрасаналу ў барацьбе з эпізоатыямі і шырокаму ўжываньню прывівачнага матарыялу;

к) прымае ўсе захады да поўнай і сваечасовай здачы прадукцыі птушкагадоўлі і трусагадоўлі дзяржаве гаспадаркамі, уваходзячымі ў склад Трэсту, не дапушчае разбазарваньня таварнай прадукцыі;

л) ўстанаўляе спэцыяльныя прэміі за перавыкананьне здачы прадукцыі паасобнымі гаспадаркамі;

м) устанаўляе нормы корму, распрацоўвае і прымае меры для забясьпечаньня ўсяго пагалоўя птушак і трусоў уласнымі кармамі і кантралюе правільнае выдаткаваньне, вядучы поўны і сталы вучот кармавых рэсурсаў, і складае кармавы балянс;

н) прымае захады да поўнага і сваечасавага забясьпечаньня гаспадарак неабходным інвэнтаром, а таксама да сваечасовага сканчэньня будаўніцтва, неабходнага для разьмяшчэньня жывёлы, кармавых складаў для хаваньня прадукцыі і г. д.;

с) падрыхтоўвае і перакваліфікоўвае патрэбныя кадры спэцыялістаў і масавыя кадры з рабочых саўгасаў, калгасьнікаў і аднаасобнікаў-беднякоў;

п) выдае адпаведную літаратуру і вядзе шырокую прапаганду па птушкагодоўлі і трусагадоўлі сярод школ і піанэратрадаў;

р) распрацоўвае мерапрыемствы па арганізацыі сацыялістычных форм і мэтадаў працы ў падпарадкаваных гаспадарках, поўнага пераходу на зьдзельшчыну, зьнішчэньні абязьлічкі і наглядае за іх ажыцьцяўленьнем;

с) распрацоўвае мерапрыемствы па забясьпечаньню гаспадарак патрэбнай рабсілай і кантралюе іх выкананьне, а таксама арганізуе мерапрыемствы па разгортваньні рабочага вынаходніцтва і рацыяналізацыі вытворчасьці.

4. Трэст складае самастойную гаспадарчую адзінку і дзейнічае на падставе камэрцыйнага разрахунку, у адпаведнасьці з плянавымі заданьнямі, зацьверджанымі Народным Камісарыятам Земляробства БССР. Ад дня рэгістрацыі Трэст мае правы юрыдычнай асобы.

5. За свае абавязанасьці Трэст адказвае толькі тою сваёю маемасьцю, якая, паводле чынных законаў, можа спаганяцца. Дзяржава за даўгі Трэсту не адказвае, а таксама на маемасьць Трэсту ня можа накіроўвацца якое-небудзь спагнаньне за дзяржаўныя даўгі і абавязнасьці.

6. Трэст можа рабіць па ўсёй тэрыторыі Саюзу СССР усе апярацыі, у тым ліку і гандлёвыя, якія патрэбны для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у арт. 1 гэтага статуту.

У замежным гандлі Трэст ўдзельнічае ў парадку, устаноўленым адпаведнымі законамі.

7. Трэст уладае, карыстаецца і распараджаецца перададзенаю яму маемасьцю і абкладаецца дзяржаўнымі і мясцовымі падаткамі і зборамі паводле агульных законаў, апроч выняткаў, паказаных у Палажэньні аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г. і ў спэцыяльных законах.

8. Бясплатнае адбіраньне ад Трэсту якой-небудзь яго маемасьці дазваляецца толькі паводле правіл, паказаных у арт. 7 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

9. У дагаворныя адносіны Трэст абавязан уступаць выключна з дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі, каперацыйнымі арганізацыямі, якія ўдзельнічаюць, як контрагенты.

10. Кантрактаваньне прадукцыі Трэсту для дзяржаўных органаў дазваляецца паводле арт. 39 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

11. Ва ўсіх выпадках, не прадугледжаных гэтым статутам, Трэст дзейнічае паводле Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г., а таксама паводле чынных законаў.

12. Трэст мае пячатку з сваёю назваю.

### II. Статутны капітал Трэсту.

13. Статутны капітал Трэсту вызначаецца Наркамземам БССР па ўзгадненьні з НКФінам БССР арыентыровачна да зацьверджаньня балянсу за першы аперацыйны пэрыяд дзейнасьці Трэсту, пасьля чаго статутны капітал Трэсту будзе ўдакладнены.

Перададзеныя Трэсту паводле арт. 2 гэтага статуту гаспадаркі ў статутны капітал Трэсту не залічваюцца.

### III. Кіраўнцтва Трэсту, яго правы і абавязкі.

14. Для кіраваньня Трэстам Народны Камісарыят Земляробства БССР назначае Дырэктара і яго намесьніка. Дырэктар і яго намесьнік могуць звальняцца Народным Камісарыятам Земляробства БССР.

15. Кіраўніцтва Трэсту знаходзіцца ў г. Менску.

16. Дырэктар Трэсту, паводле гэтага статуту і чынных законаў, пад агульным наглядам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР, вядзе самастойна ўсю аперацыйную і адміністрацыйную працу Трэста, кіруючы справамі і маемасьцю, што знаходзіцца ў яго распараджэньні, і робячы ўсе дагаворы і апярацыі, якія належаць да кампэтэнцыі Трэсту.

17. Да кампэнтэнцыі Дырэктара, у паасобку, належыць:

а) арганізацыя вытворчасьці і кіраваньне дзейнасьцю ўсіх прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у склад Трэсту;

б) зацьверджаньне палажэньняў аб кіраваньні вытворчымі прадпрыемствамі, якія ўваходзяць у склад Трэсту, на падставе тыповага палажэньня, зацьверджанага Народным Камісарыятам Земляробства БССР;

в) складаньне і паданьне ў Народны Камісарыят Земляробства БССР для зацьверджаньня вытворча-фінансавых плянаў і плянаў капітальнага рамонту, а таксама плянаў будаўніцтва новых вытворчых прадпрыемстваў, даабсталяваньня і пераабсталяваньня існуючых.

Калі Народным Камісарыятам Земляробства БССР ня будзе зацьверджаны вытворча-фінансавы плян Трэсту да пачатку аперацыйнага году, то Дырэктар Трэсту да зацьверджаньня пляну ажыцьцяўляе вытворчую дзейнасьць паводле складзенага ім пляну;

г) падача для зацьверджаньня ў Народны Камісарыят Земляробства БССР праектаў важных зьмен зацьверджаных плянаў (п. „в“);

д) складненьне і падача ў Народны Камісарыят Земляробства БССР для зацьверджаньня пэрыядычных справаздач і балянсаў, праектаў разьмеркаваньня прыбыткаў і папаўненьня страт;

е) арганізацыя касы, вядзеньне справаздачнасьці, паводле ўстаноўленай сыстэмы, і справаводства;

ж) найманьне і звальненьне служачых і рабочых цэнтральнага апарата, заключэньне каляктыўных і паасобных працоўных дагавораў і паданьне ў Народны Камісарыят Земляробства БССР на зацьверджаньне аб назначэньні альбо звальненьні Галоўнага бухгальтара Трэсту і дырэктароў вытворчых прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у склад Трэсту;

з) найманьне, здача ў арэнду і набываньне будынкаў, а таксама набываньне праў забудоўкі.

Дамы, пабудаваныя за кошт фонду палепшаньня быту рабочых і служачых, здаюцца ў арэнду з дазволу Народнага Камісарыяту Земляробства БССР;

і) адчужэньне і застава старых і нягодных будынкаў, пабудоў і абсталяваньня ў межах да 25.000 руб. у кожным выпадку, а звыш гэтай сумы—з дазволу Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

На адчужэньне і заставу права забудоўкі патрэбен абавязкова дазвол НКЗ БССР;

к) узяцьце і здача ў арэнду абсталяваньня і дапаможных прадпрыемстваў на тэрмін да 6 гадоў, а звыш гэтага тэрміну—з дазволу НКЗ БССР, узяцьце і здача ў арэнду вытворчых прадпрыемстваў дапушчаецца толькі з дазволу НКЗ БССР незалежна ад тэрміну;

л) страхаваньне маемасьці Трэсту;

м) выдача і прыняцьце для аплаты грашовых абавязацельстваў;

н) заключэньне ўсякіх патрэбных для ажыцьцяўленьня мэт Трэсту згод, актаў і дагавораў, у тым ліку дагавораў падраду і пастаўкі, і выдача даверанасьцяй;

о) удзел з дазволу НК Земляробства БССР у арганізацыі сындыкатаў, акцыйных (паявых) таварыстваў і інш. гандлёва-прамысловых аб'яднаньняў і набываньне іх акцый і паёў, а таксама ўдзел у сындыкатах, канвэнцыях і таварыствах, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, калі іх задачы адпавядаюць мэтам, паказаным у арт. 1 гэтага статуту;

п) прававаньне ў судзе і прадстаўніцтва ў асобе Дырэктара або яго намесьніка, на падставе толькі гэтага статуту, бяз выдачы ім асобнай даверанасьці, або праз даверaных асоб, упаўнаважаных спэцыяльнымі даверанасьцямі, ва ўсіх адміністрацыйных установах і ў службовых асоб.

18. Парадак падпісваньня выходзячых з Трэсту папер устанаўляецца Дырэктарам. Усякія дагаворы, згоды, абавязацельствы і даверанасьці падпісваюцца Дырэктарам або яго намесьнікам.

Дырэктар Трэсту мае права ўпаўнаважыць даверанасьцю кожнага супрацоўніка Трэсту для падпісаньня тых ці іншых дакумэнтаў.

Дакумэнты грашовага характару сьцвярджаюцца Галоўным бухгальтарам Трэсту.

Гадавыя справаздачы і балянсы падпісваюцца дырэктарам або яго намесьнікам і Галоўным бухгальтарам Трэсту.

19. Дырэктар і яго намесьнік павінны ўжываць усе захады да ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у гэтым статуце, і прыцягваюцца, паводле чынных законаў, да дысцыплінарнай, крымінальнай і грамадзянскай адказнасьці за цэласьць даручанай маемасьці і за гаспадарчае вядзеньне спраў.

### IV. Кіраваньне вытворчымі прадпрыемствамі, якія ўваходзяць у склад Трэсту.

20. Беспасрэднае кіраваньне паасобнымі вытворчымі прадпрыемствамі, што ўваходзяць у склад Трэсту (арт. 2), ажыцьцяўляецца дырэктарамі, якія назначаюцца і звальняюцца Дырэктарам Трэсту (гэтыя назначэньні і звальненьні падаюцца ім для зацьверджаньня ў Наркамзем БССР) і дзейнічаюць паводле асобнага палажэньня аб кіраваньні даным прадпрыемствам, зацьвярджаемага Дырэктарам Трэсту, і даверанасьці, выданай Дырэктарам Трэсту.

### V. Спэцыяльныя капіталы Трэсту і прыбытак.

21. Апроч статутнага капіталу ўтвараюцца:

а) аммартызацыйны капітал;

б) капітал пашырэньня прадпрыемстваў;

в) фонд палепшаньня быту рабочых і служачых;

г) фонд садзейнічаньня вынаходніцтву;

д) фонд садзейнічаньня сацыялістычнаму спаборніцтву;

е) фонд прэміраваньня за рацыяналізатарскія прапановы.

Гэтыя капіталы ўтвараюцца і прызначаюцца на паказаныя мэты і выдаткоўваюцца ў парадку і на падставе спэцыяльных законаў.

22. Амартызацыя маемасьці Трэсту робіцца паводле арт. арт. 44 і 45 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

23. Вызначэньне разьмеру прыбыткаў і страт, разьмеркаваньне прыбыткаў і вызначэньне адлічэньняў ад прыбыткаў у спэцыяльныя капіталы і ў даход дзяржавы, папаўненьне страт, а таксама выдаткаваньне спэцыяльных капіталаў робяцца паводле арт. арт. 46—49 таго-ж Палажэньня.

### VI. Справаздачнасьць Трэсту і рэвізія яго дзейнасьці.

24. Штогод, не пазьней як праз тры месяцы пасьля заканчэньня аперацыйнага году, які лічыцца з 1 студзеня па 31 сьнежня, Дырэктар падае ў НК Земляробства БССР, для разгляду і зацьверджаньня складзеныя, паводле ўстаноўленых законам правіл, справаздачу, балянс і разьмеркаваньне прыбыткаў і страт, а таксама праект папаўненьня страт і падзелу прыбыткаў паводле Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

Адклад паданьня справаздач і балянсу дазваляецца ў парадку, прадугледжаным правіламі публічнай справаздачнасьці.

25. Зацьверджаныя балянсы і разьмеркаваньне прыбыткаў і страт Трэсту публікуюцца Дырэктарам у парадку, устаноўленым правіламі публічнай справаздачнасьці.

26. Рэвізія дзейнасьці Трэсту ажыцьцяўляецца НК Земляробства БССР. Дырэктар павінен паказваць належным органам НКЗ БССР для абгляду ўсе кнігі і дакумэнты, справы і перапіску і рабіць ім усякую дапамогу пры рэвізіі і абсьледваньні дзейнасьці Трэсту.

27. Апроч выдаткаў, дакладна вызначаных чыннымі законамі, іншыя органы, апроч НКЗ БССР, маюць права ў межах свае кампэтэнцыі даваць кіраўніку Трэсту паказаньні і патрабаваць ад, яго паданьня справаздач і зьвестак ня інакш, як праз НКЗ БССР.

### VI. Зьмена статуту Трэсту.

28. Павялічэньне або зьмяншэньне разьмеру статутнага капіталу або іншыя зьмены ў гэтым статуце робяцца паводле арт. арт. 11 і 14 Палажэньня ад дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

### VII. Спыненьне дзейнасьці Трэсту.

29. Трэст спыняе сваю дзейнасьць ліквідацыяй, далучэньнем злучэньнем або падзелам, паводле арт. арт. 55—64 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Масюкоў.**

# Пастанова Народнага Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі БССР.

## 93. Пра праектаваньне жылых будынкаў.

У мэтах рацыяналізацыі і стандартызацыі жылбудаўніцтва і спыненьня бяссыстэмнага індывідуальнага праектаваньня жыльлёвага будаўніцтва НК Камунальнай Гаспадаркі БССР вызначыў тыповыя праекты па жылбудаўніцтву на 1932 г.

Вызначаныя праекты прадугледжваюць наступны характар будаўніцтва:

а) цагляныя дамы ў 2-3-4 паверхі,

б) драўляныя каркасныя дамы ў 1-2 паверхі.

Распрацоўка праектаў і рабочых чарцяжоў па гэтых тыпах ускладаецца на арганізаваны пры НК Камунальнай Гаспадаркі БССР Беларускі Дзяржаўны Інстытут па праектаваньні гарадоў (Белдзіпрагар).

На падставе гэтага НК Камунальнай Гаспадаркі пастанаўляе:

1. Усім арганізацыям і ўстановам, якія ажыцьцяўляюць жылбудаўніцтва па праграме 1932 г., карыстацца выключна тыпамі жылых дамоў, вызначанымі НККГ БССР. Складаньне індывідуальных праектаў забараняецца.

Увага. У выключных выпадках, калі па асобных умовах выклікаецца неабходнасьць складаньня праекту жылога дому, які адрозьніваецца ад вызначаных тыпаў, гэтыя пытаньні неабходна папярэдне ўзгодніць з НК Камунальнай Гаспадаркі БССР.

2. Будаўнічым арганізацыям, якія ажыцьцяўляюць жыльлёвае будаўніцтва, забараняецца прымаць да выкананьня пабудову жылых дамоў па праектах, якія ня маюць адзнакі „Тып жылбудаўніцтва 1932 г. НККГ БССР“.

3. Органам камунальнай гаспадаркі даручаецца кантроль за выкананьнем гэтай пастановы.

4. Усім арганізацыям і ўстановам, якія маюць у сваёй будаўнічай праграме 1932 г. будаўніцтва жылых дамоў, належыць па узгадненьні з мясцовымі органамі Камунальнай Гаспадаркі уключэньня гэтых аб'ектаў ў агульную праграму жылбудаўніцтва па гораду, падаць ў Белдзіпрагар (Менск, Савецкая, 46) заяўкі на праекты жылых дамоў, вызначыўшы ў гэтых заяўках наступнае:

а) месца пабудовы (горад альбо мястэчка);

б) плян вучастку пабудовы з гарызанталямі;

в) вынікі бурэньня альбо шурфаваньня грунту (калі гэта яшчэ ня зроблена, то гэтыя зьвесткі можна даслаць дадаткова, але не пазьней як праз месяц з дня падачы заяўкі);

г) матарыял сьцен;

д) колькасьць паверхаў;

е) пажаданая колькасьць кватэр і колькасьць пакояў у кватэры;

ж) наяўнасьць вадаправоду і каналізацыі.

Паказаныя весткі даць па кожнаму аб'екту, з вызначэньнем колькасьці дамоў кожнага тыпу.

5. Апошні тэрмін падачы заявак 15 студзеня 1932 г. Арганізацыі і ўстановы якія спозьняцца з падачай заявак, ня будуць забясьпечаны праектамі.

Народны Камісар Камунальнай Гаспадаркі БССР **Аксючыц.**

Загадчык Сакратарыяту НККГ **Веразінскі.**

8 сьнежня 1931 г.
№ 1-2.

## Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі БССР.

### 94. Пра парадак ужываньня арт.арт. 4 і 5 пастановы ЦВК і СНК БССР за 15 жніўня 1931 г. „Пра карыстаньне жыльлёвай плошчай".

I. Права на дадатковую плошчу ня больш 9 кв. мэтраў маюць работнікі наступных катэгорый:

1) адказныя палітработнікі, якія атрымлівюць зарплату па тарыфу адказных палітработнікаў;

2) вучотныя спэцыялісты;

3) эканамісты;

4) інжынэрна-тэхнічныя работнікі (якія састаяць членамі ІТР);

5) галоўныя бухгальтары;

6) дактары, якія працуюць па сваёй спэцыяльнасьці;

7) навуковыя працаўнікі (якія састаяць членамі навуковай сэкцыі Саюзу Працасьветы);

8) пэдагагічныя працаўнікі (настаўнікі).

II. Дадатковая плошча даецца работнікам пералічаных вышэй катэгорый толькі пры падачы імі спэцыяльнага пасьведчаньня ад прадпрыемства ці ўстановы па месцу работы аб тым, што па роду іх працы яны маюць пільную патрэбу працаваць дома; пры гэтым адміністрацыя прадпрыемстваў і установ нясе адказнасьць за правільнасьць выдаваемых пасьведчаньняў.

III. З выданьнем гэтай інструкцыі лічыць страціўшай сілу інструкцыю НК Працы БССР за 9 ліпеня 1929 г. № 50 (Бюл. СНК БССР 1929 г. №№ 7 і 10).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Народны Камісар Камунальнай Гаспадаркі БССР **Аксючыц.**

27 сьнежня 1931 г.
№ 57.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

### 95. Аб прыцягненьні да адказнасьці за сьвядомае пераўвялічэньне плянаў выдаткаваньня зернафуража пры іх складаньні і выдаткаваньне яго звыш зацьверджаных плянаў.

*Усім нарсудам і вучпракурорам.*

Пастановай ЦК ВКП(б) і СНК СССР за 27|XI-31 т. (газ. „Известия" № 327 за 28/XI-31 г.) адзначана, што ў шэрагу саўгасаў наглядаюцца недапушчальна злачынныя адносіны да дзяржаўнай маемасьці: 1) адсутнічае сапраўдны вучот хлеба; 2) хлеб выдаткоўваецца па зусім незаконных нормах, якія ў шматлікіх выпадках амаль у два разы перавышаюць нормы, устаноўленыя для першаразрадных прадпрыемстваў у горадзе; 3) ураджаі пэраўмяншаюцца і сапраўдныя разьмеры хлебных рэсурсаў запісваюцца няправільна ў хлебафуражны баланс; 4) абавязацельствы па здачы збожжа дзяржаве разглядаюцца кіраўнікамі саўгасаў як другарадная задача, выкананьне якой можна адкласьці да поўнага задавальненьня патрэб сваёй гаспадаркі.

У выніку такой недаацэнкі справы выкананьня збожжа-загатоўчага пляну дзяржавы, хлебазагатоўкі ў бягучым годзе праходзяць з вялікімі цяжкасьцямі.

У мэтах забясьпечаньня правільнага выдаткаваньня хлабафуража саўгасамі і калгасамі і сваечасовага выкананьня іх абавязкаў перад дзяржавай, вышэйпамяненай пастановай ЦК ВКП(б) і СНК СССР, а потым пастановай СНК СССР за 20/XI-31 г. ( З. З. СССР 1931 г., № 67, паст. 446), сурова забаронена ўсякае перавыдаткаваньне хлеба і зернафуража і ўстаноўлена крымінальная адказнасьць службовых асоб за сьвядомае пераўвялічэньне плянаў выдаткаваньня хлеба-і зернафуража пры іх складаньні, а таксама за перавыдаткаваньне гэтых прадметаў звыш зацьверджаных рэгулюючымі органамі плянаў, як за растрату дзяржаўнай маемасьці.

На падставе гэтага Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе:

1. Усіх службовых асоб, вінаватых у пераўвялічэньні плянаў выдаткаваньня хлеба-і зернафуража і ў перавыдаткаваньні гэтых прадметаў па нормах, перавышаючых нормы, устаноўленыя рэгулюючымі органамі, няўхільна прыцягваць да крымінальнай адказнасьці, як за перавышэньне ўлады, па 197 арт. К. К.

2. Сьледства па справах, узбуджаемых у сувязі з перавыдаткаваньнем і разбазарваньнем хлебных і зернафуражных рэсурсаў, а таксама разгляд гэтых спраў па судох вытвараць уне ўсякай чаргі, з мабілізацыяй вакол гэтых спраў увагі грамадзкасьці, у першую чаргу груп садзейнічаньня пры Пракуратуры.

3. Аб практыцы па гэтых справах і колькасьці паступова паведамляць НКЮ.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і Ст.
Пракурор Рэспублікі **Файнбург.**

21 сьнежня 1931 г.
№ 78

